www.nv-online.info

№ 100 (3841)

20 снежня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Не плануецца?

*Дэнамінацыя плануецца, але казаць пра тэрміны яе правядзення ў Беларусі пакуль заўчасна. Па крайняй меры так заявіла старшыня праўлення Нацыянальнага банка **Надзея Ермакова** падчас “Прамой лініі” ў газеце “Звязда”.*



Кіраўнік Нацбанка патлумачыла, што для правядзення дэнамінацыі трэба, каб інфляцыя за год складала менш за 10 працэнтаў, інакш з-за росту коштаў зноў паўстане неабходнасць у буйных грашовых купюрах. Паколькі ў наступным годзе інфляцыя запланавана на ўзроўні 11 працэнтаў, казаць аб правядзенні дэнамінацыі ў 2014 годзе пакуль заўчасна, сказала Надзея Ермакова. “Новыя грашовыя купюры ўжо ёсць, яны аддрукаваны, але іх уводзіць яшчэ рана”, — адзначыла кіраўнік Нацбанка.

Дэнамінацыя ў эканоміцы — узбуйненне грашовай адзінкі краіны без змены яе назвы, якое праводзіцца ў мэтах палягчэння грашовага звароту і надання большай паўнавартаснасці грашам. Дзякуючы дэнамінацыі атрымліваецца значна скараціць лік грашовых купюр, якія знаходзяцца ў звароце. У народзе дэнамінацыю называюць проста — “прыбраць нулі”.

ЧУЛІ?

## Чакаецца амністыя

Міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч** у чацвер агучыў навіну, якой чакалі дзясяткі тысяч чалавек.

Ігар Шуневіч намякнуў, што ў наступным годзе ў краіне магчыма правядзенне амністыі ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*“Магу выказаць здагадку з вялікай доляй упэўненасці, што закон аб амністыі ў наступным годзе будзе”*, — заявіў міністр журналістам.

ПАСТФАКТУМ

# Аскепкі шкла ад Плошчы

19 снежня 2010 года — знакавая дата для ўсяго беларускага грамадства: і для тых людзей, якія займаліся актыўнай грамадскай і палітычнай дзейнасцю, і для тых, хто асабліва палітыкай не цікавіўся. 19 снежня — дзень апошніх прэзідэнцкіх выбараў — знаменаваў па ўсёй краіне пачатак беспрэцэдэнтных рэпрэсій супраць актывістаў дэмакратычнага руху і журналістаў. Крымінальныя справы былі распачаты супраць экс-кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, іх давераных асоб і кіраўнікоў выбарчых штабоў. З паўсотні чалавек трымалі цягам паўгода за кратамі. Адных абвінавачвалі ва ўдзеле ў масавых беспарадках, іншых — у іх арганізацыі. Потым суды і прысуды, пераслед адвакатаў, якія абаранялі арыштаваных, масавая эміграцыя на Захад. За кратамі дагэтуль застаецца экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта **Мікалай Статкевіч.**



Тры гады прайшлі пасля Плошчы, але дагэтуль не сціхаюць дыскусіі, узаемныя абвінавачванні, заклікі палітыкаў зрабіць урокі, назваць прозвішчы сапраўдных вінаватых і г.д. Дагэтуль цягнецца дыскусія, хто вінаваты і па чыім сцэнарыі развіваліся падзеі ў той дзень. Прайшло следства, за ім — суды, былі вынесены прыгаворы. Але да сёння многія задаюцца пытаннем: “Дык хто біў шкло ў Доме ўрада?”

“Народная Воля” вырашыла запытацца пра гэта ва ўдзельнікаў тых падзей, людзей, якія не толькі бачылі на свае вочы ўсё, што адбывалася, але потым знаёміліся з матэрыяламі крымінальнай справы.

**Алесь Арэстовіч, сябра штаба кандыдата на пасаду прэзідэнта Мікалая Статкевіча:**

— Я да сёння не ведаю, хто гэта рабіў. Але дакладна ведаю, што Статкевіч нікому такіх даручэнняў не даваў і сам пра гэта даведаўся, калі ўжо ўсё здарылася. Ніхто не быў да такога гатовы, мы назіралі сітуацыю са здзіўленнем. Думаю, што гэта была правакацыя, і гэта было відавочна.

**Мікіта Ліхавід (19 снежня 2010 года затрымалі літаральна каля ганка Дома ўрада. 20-гадовы хлопец тады ўпершыню ўдзельнічаў у вулічнай акцыі):**

— Калі я падышоў да ганка, то ўбачыў, што шкло ўжо разбіта. У праёмах убачыў сталы, там быў натоўп народу, і мне было цікава паглядзець, што ж там адбываецца. Вось тады нас абкружылі спецназаўцы. Людзей пачалі збіваць. Пад’ехалі аўтазакі. Першы запоўнілі літаральна за пару хвілін.

Людзі ў натоўпе не ведалі, што рабіць, не было ніякага плана, ніхто нічога не прапаноўваў, таму нешта такое, з біццём шыбаў, магло адбыцца. Што казалі на трыбуне, маглі чуць толькі тыя, хто стаяў блізка. Іншыя (а гэта ж тысячы і тысячы чалавек!) папросту размаўлялі паміж сабой. У такой сітуацыі дастаткова было нейкай іскры, каб нехта паддаўся на такую правакацыю.

**Сяргей Марцалеў, кіраўнік штаба Мікалая Статкевіча:**

— Адказна заяўляю, што гэта не быў сцэнарый дэмакратычных кандыдатаў. Тут ёсць дзве базавыя версіі: альбо гэта былі найбольш эмацыянальныя ўдзельнікі, якія на хвалі ўсеагульнай радасці зрабілі сумбурную спробу захапіць будынак, альбо гэта была свядомая правакацыя спецслужбаў, да чаго схіляецца большасць экспертаў. Правакатары паказалі прыклад і павялі за сабой самых гарачых. Хачу звярнуць увагу на тую акалічнасць, што ў красавіку 2011 года затрымалі траіх маладых людзей, якіх абвінавацілі менавіта ў тым, што яны білі шкло. Аднаго асудзілі, прычым хутка памілавалі, а дваіх увогуле вызвалілі ад адказнасці. Гэта былі тыя самыя людзі, якія стаялі на прыступках Дома ўрада і крычалі: “Беларусы, сюды!” Ніхто гэтых людзей не ведае. Дакладна вядома толькі тое, што яны не з’яўляюцца актывістамі дэмакратычнага руху.

**Тамара Сідарэнка, адна з тых адвакатаў, якіх пазбавілі ліцэнзіі за ўдзел у працэсах за Плошчу:**

— Хто б ні біў шкло, гэта не сведчыць пра тое, што былі масавыя беспарадкі. З амаль паўсотні чалавек, якіх пакаралі па крымінальных справах (дзе размова ішла пра нанясенне ўрону), за шкло прыцягнулі да адказнасці лічаныя адзінкі. Нехта кажа пра правакатараў, нехта называе іншыя версіі, але людзі, якіх пакаралі, казалі, што яны гэтага не рабілі. Нехта апынуўся на ганку, нават рэшткі шкла вынуў, каб людзі не параніліся. Так што можна гаварыць і пра правакацыі, і пра людзей, якія, як кажуць, сарваліся з катушак. Але на фоне тысяч людзей гэта былі адзінкі. Тое, што ад пачатку дзяржаўныя СМІ пачалі гаварыць пра бітае шкло, ледзь не пра здраду Радзіме, спробу дзяржаўнага перавароту, сведчыць аб тым, што сцэнарый пачаўся яшчэ да падзей каля Дома ўрада. Уладзіміра Някляева і людзей, якія ішлі разам з ім на Кастрычніцкую плошчу, увогуле збілі за гадзіну да ўсіх гэтых падзей (Някляеў, дарэчы, меў тады статус кандыдата на пасаду прэзідэнта). Потым у фільме “Жалезам па шкле” паказалі цалкам прыдуманыя рэчы, якія загадзя ўлады спрабавалі выставіць калі не як спробу перавароту, то хаця б як незаконныя дзеянні з боку дэмакратычных кандыдатаў. Таму я лічу так: у той дзень адназначна была здзейснена правакацыя з боку ўлад, гэты сцэнарый дакладна быў не ад кандыдатаў ад апазіцыі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*



# Тянут резину...

Закон о бюджете Беларуси на 2014 год принят. Поверхностный взгляд на цифры может вселять оптимизм. Бюджет исходит из того, что ВВП прирастет на 3,3%, инфляция снизится до 11%, среднегодовой курс доллара будет 9800 рублей, экспорт товаров возрастет на 4,4 миллиарда долларов и т.д.

Первоначально, учитывая текущее состояние экономики, республиканский бюджет на следующий год предусматривался дефицитным (10 триллионов). Но ко времени его обсуждения правительство сформировало сбалансированный вариант — расходы равны сумме всех доходов. Причем расходы не стали оптимизировать (сегодня это означает сокращать), а чудесным образом увеличили доходную часть. Главное тут — за счет чего? Или лучше спросить, за счет кого?

Если выездная пошлина для физических лиц в размере 100 долларов с носа пока не прошла, то белорусское ноу-хау — налог на доступ транспортных средств к дорожному движению — обретает денежную плоть в следующем бюджете. С него планируют собрать поступления в объеме 1—1,6 триллиона рублей. В свое время так называемый транспортный налог в Беларуси был ликвидирован и, как в приличных экономиках других стран, подразумевался в цене моторного топлива. Больше ездишь — больше платишь. У нас пошли по другому пути: тяжесть транспортного налога будет зависеть от тяжести транспортного средства.

Очередную посильную помощь бюджету окажут любители алкоголя и сигарет. Предполагается увеличить ставки акцизов на крепкий алкоголь в два приема на 25,6%, на вино плодовое крепленое — на 75,1%, на иные виды алкогольной продукции — в среднем на 20%. На табачные изделия предложено повысить ставки акцизов на 24—38%. Ставки акцизов на автомобильное топливо увеличат в среднем на 14,5%. Если учесть утилизационный сбор на импортированные автомобили, который, возможно, введут на российский манер, и уже действующую российскую ввозную пошлину, то автомобиль для белоруса становится роскошью. А поговорка, сорвавшаяся с легкого языка президента, что, мол, главное для белоруса “чарка и шкварка”, дополненная народом “иномаркой”, теряет актуальность для нашего, условно говоря, среднего класса.

*(Окончание на 2-й стр.)*

СІТУАЦЫЯ

## Не хапае смеласці?

*“Я не палохаю вас, а папярэджваю: з гэтага часу кожнаму, хто будзе звольнены за разгільдзяйства і халатнасць, прыйдзецца вярнуць дзяржаве ўвесь аб’ём заработнай платы, якую ён рэгулярна атрымліваў на працягу ўсяго перыяду сваёй працы на гэтай пасадзе!” — так дабіваецца эфектыўнай працы чыноўнікаў прэм’ер-міністр Узбекістана Шаўкат Мірзіяеў. А што ў Беларусі?*

“Разбор палётаў”, які абяцаў учыніць чыноўнікам Аляксандр Лукашэнка за правал мадэрнізацыі дрэваапрацоўчай галіны, так і не адбыўся. Сам Лукашэнка вызначыў дату гэтай нарады, заявіўшы, што яна павінна прайсці да 10 снежня. Тым не менш ніякай нарады пакуль не было.

Куратар галіны — першы віцэ-прэм’ер Уладзімір Сямашка — па-ранейшаму застаецца на сваёй пасадзе. Хаця колькасць “апошніх папярэджанняў”, якія выносіліся Сямашку кіраўніком дзяржавы, не пералічыць. Грошы за правал мадэрнізацыі дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў з чыноўнікаў ніхто не спагание. Наадварот, на гэтыя мэты выдзяляюцца ўсё новыя і новыя крэдыты.

Тым часам з “Барысаўдрэва” на гэтым тыдні прыйшла трывожная навіна. Там адбыўся пажар. На месца здарэння выязджаў асабіста міністр па надзвычайных сітуацыях, пажар тушылі тры гадзіны. Толькі дзякуючы пажарным агнём не было знішчана новае абсталяванне, закупленае якраз па праграме мадэрнізацыі. Па гэтым факце Следчы камітэт ужо ўзбудзіў крымінальную справу.

Следчыя працуюць і на прадпрыемстве “Мастоўдрэў”, дзе мадэрнізацыя таксама была правалена. Праўда, пад абвінавачанне трапіў кіраўнік фірмы, якая павінна была паставіць абсталяванне на новую міні-ТЭЦ прадпрыемства. Між тым праблемы міні-ТЭЦ — гэта далёка не ўсе праблемы завода, дзе мадэрнізацыя павінна была быць завершана яшчэ ў 2010 годзе. Але “куратары” гэтага правалу ў дзяржаўных структурах тым не менш атрымлівалі за сваю бяздзейнасць немалыя заробкі. Можа, прыйшоў час пераняць узбекскі вопыт не толькі ў барацьбе з апазіцыяй?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

З НАГОДЫ

# Скразнякі

Днямі знаёмая, сын якой ходзіць у другі клас адной са сталічных гімназій, паскардзілася:

*— Раз у паўгоддзе з бацькоў збіраюць па 150 тысяч на патрэбы школы. А днямі сын прынёс дадому паперку: маўляў, бацькоўскі камітэт прыняў рашэнне, што трэба здаць яшчэ па 400 тысяч. На вокны.*

— Я што, у платную гімназію сына аддавала? — абуралася жанчына. — Чаму я, а не дзяржава павінна клапаціцца, каб у школах не было скразнякоў? Гэта тое самае, калі б рабочы прыйшоў на завод, а яму сказалі: “Інструмент купіце за свае грошы”.

Я патэлефанаваў у гімназію, дырэктар развяла рукамі: *“Нічога не ведаю, магчыма, бацькі з гэтага класа на агульным сходзе самі прынялі рашэнне паставіць новыя вокны”.* Дадала, што гэта справа добраахвотная, ніхто нікога не прымушае, бюджэтных грошай не хапае, даводзіцца шукаць нейкія іншыя рэсурсы.

Шчыра кажучы, настаўнікаў і дырэктараў зразумець можна. Яны “трасуць” бацькоў не ад добрага жыцця. І такая сітуацыя ў гімназіі — гэта норма жыцця амаль ва ўсіх астатніх школах.

Праўда, калі школьнікаў у прымусова-добраахвотным парадку валакуць на які-небудзь Прэзідэнцкі аматарскі хакейны турнір, то ў тых жа настаўнікаў наўрад ці ўзнікаюць пытанні: “А навошта нам гэты турнір? За якія шышы ў Мінску збіраюць хакейных ветэранаў, бясплатна кормяць, размяшчаюць, аплачваюць арэнду лядовых палацаў? Можа, лепш было б паставіць у школе вокны?”

Не чуў я, каб Міністэрства адукацыі рубам паставіла перад уладай пытанні: “Да якога д’ябла нам столькі сілавых структур, розных спецслужбаў? А якая плойма чыноўнікаў? Не хапае будынкаў, каб размясціць. За тыя грошы, якія можна было б сэканоміць, ці не лепш вокны паставіць — у школах скразнякі?”

Але на дзяцей грошай не знаходзіцца. Ды і навошта, калі бацькі самі могуць здаць грошы на вокны?

І сапраўды — навошта нам адукаваныя беларусы? Ёсць жа разумныя дэпутаты. Вось, напрыклад, нардэпы ў другім чытанні прынялі законапраект аб увядзенні новага падатку на аўтамабілі. Прасцей жа не самім працаваць так, каб твой тавар быў канкурэнтным ва ўсім свеце, а забраць грошы ў людзей. Ды пры гэтым паскуголіць: “Грошай у бюджэце няма”.

*“Дзяржава мае права ўвесці падатак, і мы павінны ўспрымаць гэта нармальна, няхай нават гэта закране бюджэт сям’і*, — заявіла адна з такіх разумніц, старшыня камісіі па бюджэце і фінансах Палаты прадстаўнікоў Людміла Дабрыніна. — *Але трэба думаць і аб бюджэце краіны, паколькі туды паступаюць грошы, якія ідуць на ўтрыманне ўсёй інфраструктуры краіны”.*

Дарэчы, пенсія дэпутата Палаты прадстаўнікоў зараз складае каля 9 мільёнаў рублёў! А заробак “абраннікаў народа”, напэўна, і наогул пераважвае за 10 мільёнаў. Вось хацелася б спытаць у спадарыні Дабрынінай: ці не згодна яна аддаць свае мільёнаў восем (якраз столькі і збіраюць на вокны ў класе) у канкрэтную “інфраструктуру краіны”? Адрас гімназіі я падкажу. Калі ўжо дэпутаты не знайшлі ў бюджэце грошы на адукацыю, дык, можа, Дабрыніна свае ахвяруе на добрую справу? І яна *“павінна ўспрымаць гэта нармальна, няхай нават гэта закране бюджэт сям’і”.* Тым больш, нават калі і аддасць восем мільёнаў, то, думаю, нейкія 2—3 мільёны ў дэпутаткі яшчэ на жыццё застануцца. Столькі ж, колькі атрымлівае выхавальніца ў дзіцячым садку.



Таму, калі з бацькоў у чарговы раз “трасуць” грошы на рамонт школы і пры гэтым кажуць, што на адукацыю няма фінансаў, калі я бачу, якія машыны купляюць чыноўнікі *“на рабочие нужды”*, якія непатрэбныя палацы будуюцца, а дэпутаты атрымліваюць у чатыры разы больш, чым выхавальніцы, мне робіцца проста смешна. Як казаў прафесар Прэабражэнскі: “Разруха не ў прыбіральнях, а ў галовах”. І колькі ні здавай грошай — скразнякі ў гэтых галовах застануцца.

**Алесь СІВЫ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## Сергей КАЛЯКИН, председатель партии левых «Справедливый мир»:



“...В Беларуси ситуация такая, что никто не знает точно, кто выиграл или проиграл *(имеются в виду президентские выборы 2010 года. —* **Ред.**). Просто голоса не считают. Я думаю, даже Ермошина не знает, какие были реальные цифры голосования. В лучшем случае их знают председатели участковых комиссий, которые их озвучивали. Но наверняка и им заранее озвучивали ориентировочные необходимые для власти данные. Как на самом деле голосовали белорусские избиратели, не будут знать до тех пор, пока не будет честного подсчета голосов. До этого момента верить данным и заявлениям любых политиков, включая Лукашенко, что он победил, — нельзя.

...У нас же повсеместно скрываются данные подсчета голосов — от членов избирательных комиссий, наблюдателей, СМИ, даже от самих себя. Член участковой комиссии знает только данные по стопке бюллетеней, которые он подсчитал сам лично. Но и эти его данные не знает другой член комиссии, так как они не озвучиваются, хотя закон и требует прозрачного подсчета голосов”.

РЕФОРМА

# Перестройка судов

*В четверг председатель Верховного суда Валентин Сукало представил Национальному собранию декрет президента “О совершенствовании судебной системы Республики Беларусь”.*

Председатель ВС напомнил, что в соответствии с декретом №6 и рядом указов президента с 1 января 2014 года общие и хозяйственные суды объединяются в единую систему судов общей юрисдикции. Возглавит эту систему единый высший судебный орган по гражданским, уголовным, административным и экономическим делам — Верховный суд. При этом хозяйственные суды областей и Минска будут переименованы в экономические и продолжат свое функционирование как суды соответствующей специализации.

В связи с объединением Верховного и Высшего Хозяйственного судов предусматривается создание общих органов судейского сообщества, а также наделение Верховного суда, его пленума и президиума полномочиями, отнесенными в настоящее время к компетенции ВХС и его соответствующих органов.

С 1 июля 2014 года планируется упразднение Военной коллегии Верховного суда и военных судов, их квалификационной коллегии и конференций. Все полномочия Белорусского военного суда и межгарнизонных военных судов перейдут к областным (Минскому городскому) и районным (городским) судам общей юрисдикции. В связи с этим будет прекращено финансирование Министерством обороны системы военных судов.

Депутаты и сенаторы приняли нововведения к сведению. Их одобрения для таких серьезных изменений даже не требовалось.

Вот уж демократия по-белорусски!

СПОРТ

## З перамогай!

*Упэўненай перамогай баскетбалістак мінскага “Гарызонта” завяршыўся розыгрыш Кубка Беларусі сярод жаночых каманд.*

У вырашальным паядынку за ганаровы трафей падапечныя **Анатоля Буяльскага** перайгралі саперніц з “Цмокі-Мінск” — 71:56.

Гэта трэцяя запар вікторыя самага тытулаванага беларускага клуба ў розыгрышах нацыянальнага Кубка. У складзе пераможцаў Таццяна Ліхтаровіч набрала 13 ачкоў, у Таццяны Троінай 11 балаў, Наталля Ануфрыенка і Аляксандра Хамянчук прынеслі сваёй камандзе па 10 ачкоў.

СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ

# «Нас купілі разам з домам...»

*Дом №56 на вуліцы Якубоўскага ў Мінску, дзе ў 107 кватэрах жывуць амаль адны інваліды па зроку, нагадвае зараз раз'юшаны вулей. Людзі збіраюцца то па кватэрах, то прама ў калідоры... Тэма адна: што рабіць і дзе ўзяць грошы? Ніхто са старажылаў дома не думаў, што надыдзе час, калі давядзецца вырашаць, як выжываць далей. Прычынай стала паведамленне Таварыства сляпых аб тым, што інвалідам трэба выкупіць кватэры па коштах, якія ніводнаму з іх не па сілах.*

Каб разабрацца ў сітуацыі, трэба па цаглінках сабраць гэтую гісторыю ад самага пачатку. А пачыналася ўсё 27 гадоў таму. На вуліцы Якубоўскага за кошт Таварыства сляпых будаваліся адначасова тры дамы — крама, пральня і дзіцячы садок. Дом, пра які ідзе размова, здалі ў 1987 годзе. Мінгарвыканкам пайшоў насустрач таварыству інвалідаў і перадаў яму будынак, каб сляпым людзям можна было жыць побач з прадпрыемствам "Святлопрыбор", дзе працавала большасць з іх. Некаторыя нават здалі свае кватэры ў іншых раёнах сталіцы, каб жыць побач з таварышамі па няшчасці: разам жа лягчэй. У той час на трох першых паверхах дома размяшчаўся інтэрнат з ложка-месцамі, было і некалькі асобных кватэр, а на 9-м паверсе — гатэль для прыезджых. Калі з 2000 года пачалі множыцца прыватныя прадпрыемствы, то і "Святлопрыбор" не стаў выключэннем. Дайшло да таго, што і дом стаў уласнасцю, дакладней — фармальна ён знаходзіўся на балансе Таварыства сляпых з правам кіравання.



Але хто тады мог падумаць, што праз якія шэсць гадоў гэта ператворыцца ў такую праблему для інвалідаў? Чаму? Ды папросту чэкі "Жыллё" жыхарам даць не маглі, бо дом быў ужо не ў дзяржаўнай уласнасці. Не было людзям ніякай карысці і ад таго, што інвалідам з дзяцінства падчас прыватызацыі 20 квадратных метраў належаць бясплатна, бо гаворка зноў жа ні пра якую прыватызацыю не ішла. Людзі жылі сабе — і раптам, як снег на галовы, паведамленне: тэрмінова выкупіць кватэры. А хто не выкупіць, той будзе з 1 студзеня 2015 года плаціць за жыллё як за арэнднае.

Звяртаю ўвагу: гаворка ідзе не пра прыватызацыю, а пра выкуп. Прычым інвалідам прапанавалі набыць свае кватэры па розных коштах. Адны мусяць заплаціць агулам па 17 тысяч долараў, а іншыя — больш за 50 тысяч. Ці стане каму лягчэй ад таго, што грошы нібыта пойдуць на мадэрнізацыю прадпрыемства і... рамонт жылля?

...У кватэры на першым паверсе некалі спакойнага дома сабраліся шэсць жанчын і адзін мужчына — гаспадар кватэры. Яго жонка **Ірына Фацьянава** трымае папку з рознымі зваротамі, адказамі на іх, нейкімі актамі і інструкцыямі. Жанчына паказвае "эпапею" перапіскі з рознымі структурамі і кажа: *"23 чалавекі ўзялі і вырашылі лёс больш як 200 чалавек. Папросту паставілі свае подпісы на паперцы. Я маю на ўвазе старшыню таварыства і прэзідыум. Яны ж пастанавілі, што па 500 долараў за метр павінны плаціць інваліды I і II груп, па 700 долараў — працуючыя, а тым, хто не мае інваліднасці і папросту тут жыве, — па 1200 долараў. Па цане 1200 долараў за квадратны метр сёння можна прыстойную кватэру набыць. А тут маласямейка на ўскрайку горада. Якому дурню спатрэбіцца тут кватэра за такія грошы? І чаму разлікі ідуць у доларах, а не ў рублях? Мы ж ведаем, што долар расце штодня і такім чынам расце і кошт квадратнага метра. Дык што рабіць? Дзе тое сумленне ў людзей?"*

У размову ўключыўся гаспадар кватэры **Георгій Сухаў**. Ён пасяліўся ў доме ў 2002 годзе. Распавёў, што аднапакаёўку атрымаў, калі тут быў яшчэ інтэрнат. Паколькі стаяў у чарзе на кватэру, яму фармальна і выдзелілі тую, у якой ён жыў. Цяпер цягам трох месяцаў інвалід павінен сабраць 17.000 долараў. А вось калі б яму далі кватэру не ў гэтым доме, то і не патрапіў бы чалавек у такую сітуацыю. Прыватызаваў бы жыллё, як усе, і жыў бы далей без дадатковага стрэсу. Часам смяяўся б над жартамі сяброў з-за свайго прозвішча. А цяпер жа "таварышу" Сухаву не да смеху: *"Дзе ўзяць такую суму? Мы два пенсіянеры. У нас на дваіх прыкладна 6 мільёнаў рублёў. З чаго сабраць? З гэтай пенсіі? Плаціць за арэнду мы не ў стане. Застанецца ісці на вуліцу... Куды мы ні звярталіся, атрымліваем адны адпіскі пра тое, што ўсё зроблена на законных падставах. Мы нават звярталіся на пленум нашага таварыства, каб нам далі растэрміноўку з выплатай першага ўнёску ў 10%. Дык адмовілі. Самае брыдкае, што старшыня таварыства сляпых Алег Шэпель нам у твар сказаў: "Так, я хачу за кошт гэтага дома зарабіць". Дык гэта, на вашу думку, не рабаўніцтва?"*

У кожнага з прысутных свая сумная гісторыя. **Валянціна Куцькіна** на "Святлопрыборы" працуе з 1994 года. Жанчына раней працавала на Мінскім заводзе вылічальнай тэхнікі, але ў выніку сур'ёзнай траўмы стала інвалідам I групы па зроку. У 2006 годзе яна спрабавала прыватызаваць кватэру, але безвынікова. Валянціна кажа: *"Мяне і яшчэ адну жанчыну нават былі звольнілі з працы за тое, што дабіваліся свайго ў розных кабінетах. Заробкі тут малыя. Пенсія ў мяне два з паловай мільёны. Дзе ўзяць 17 тысяч долараў?! Хто мне ў 72 гады дасць крэдыт? Я ж раней мела іншую кватэру, але здала яе, каб перасяліцца сюды. Спадар Шэпель падказвае, каб нашы дзеці, унукі і праўнукі скінуліся. А ў мяне сын шматдзетны, ён толькі пабудаваўся і дапамагчы мне не можа. Дачка жыве ў Расіі і таксама не можа мне дапамагчы. У мяне 46 гадоў стажу. Чаму мае дзеці павінны зараз плаціць за мяне?! Я лічу, што жыллё я зарабіла сваёй працай. Чаму нам вызначылі плату ў доларах? Мы прасілі ў беларускіх рублях, бо штодня долар расце, а значыць, расце і кошт квадратнага метра. Нам Шэпель казаў, што раз мы пачалі паўсюль пісаць, то дапамагаць нам не будуць. А як жа яны прыватызавалі будынак разам з людзьмі, нібыта нейкі хлеў са скацінай? І мы яшчэ ім павінны заплаціць?"*

**Людміла Цітавец** жыве ў гэтым доме з 1990 года. Яе муж, інвалід I групы, займаецца надомнай працай. Ім трэба цягам трох месяцаў знайсці за сваю двухпакаёўку 25.000 долараў. Жанчына кажа: *"Кучцы людзей пашанцавала, і яны зрабілі прыватнае прадпрыемства, прыватны дом, ды такім чынам, што іншыя людзі пра гэта і не ведалі. Купілі дом разам з людзьмі... Такія прадпрыемствы, як для сляпых, глухіх, інвалідаў апорна-рухальнага апарату, з'яўляюцца сацыяльна значнымі, і таму яны павінны быць цалкам дзяржаўнымі, каб не ўзнікала такіх праблем".*

Жанчыны гаварылі і гаварылі. Калі б не тэма размовы, можна было падумаць, што ў кватэры на звычайную сустрэчу сабраліся старыя сяброўкі. На тумбачцы побач з канапай у рамачках фотаздымкі дзяцей і ўнукаў. У доме цёпла і чыста. Ірына Фацьянава паказвае вялізную кнігу "Преодоление": *"Таварыства сляпых стала трамплінам, каб зарабляць грошы. Такое ўражанне, што там сабраліся людзі, якія паразітуюць на інвалідах, карыстаючыся тым, што яны бездапаможныя. Дзяржава павінна іх абараняць. Гэта ж закладзена ў Канстытуцыі. А ў гэтай кнізе фотаздымкі і подпісы пра тое, як пра нас клапоцяцца, якое ў нас шыкоўнае жыццё. Папросту нейкая светлая будучыня ў адным асобна ўзятым месцы".*

Жанчыны расказваюць, колькі давялося хадзіць па розных кабінетах. Можна ўявіць сабе, якіх намаганняў гэта каштуе сляпым людзям. Нарэшце звярнуліся да праваабаронцаў у Хельсінкскі камітэт. Юрыст Гары Паганяйла з тыдзень разбіраў паперы з той самай папкі, якую паказваюць мне інваліды. Нарэшце ён падказаў выйсце: *"Па сутнасці, уласнік можа распараджацца сваёй маёмасцю. Але дом будаваўся з удзелам грамадскай арганізацыі, і гэта трэба ўлічваць. Адміністрацыя, куды звярталіся незадаволеныя коштам выкупу кватэр сябры таварыства, сцвярджае, што кошты ўзяліся не са столі, што яны нібыта былі пралічаны нейкім чынам і што гэта рашэнне органа, які ўпаўнаважаны вырашаць такія праблемы. Аднак калі пайсці насустрач сябрам свайго ж таварыства, можна дамаўляцца і з кіруючым органам, і з кіраўніком арганізацыі. Калі ж яны не змогуць дамовіцца, то пытанні можна вырашыць на сходзе таварыства ці на з'ездзе. З пункту гледжання права, размова ідзе не пра прыватызацыю, а пра пакупку жылля ці пра бязвыплатную перадачу жылля з улікам інваліднасці, стажу працы, з улікам канкрэтнага працоўнага ўдзелу. У такой сітуацыі не трэба рашэнне 23 чалавек успрымаць літаральна як "кідалава", а глядзець на яго як не да канца прадуманае рашэнне па коштах. Але магчымасць дамовіцца яшчэ ёсць. Трэба вызначыцца з коштамі. Яно ж не можа быць даражэйшае за іншае нянове жыллё ў горадзе. Грамадзяне могуць і ў суд звярнуцца, каб абараніць свае інтарэсы. Папросту таварыства хоча, як кажуць у народзе, наварыць бабак на жыллі, але без уліку інтарэсаў грамадзян, якія ім карыстаюцца".*

Але ці пойдзе на кампраміс старшыня Таварыства сляпых **Алег Шэпель**? Ён "Народнай Волі" сказаў, што рашэнне наконт памеру выплат мяняцца не будзе:

*— Рашэнне было прынята на пленуме. Дом на балансе "Святлопрыбора", а само прадпрыемства ўваходзіць у Таварыства сляпых. Калі людзі не захочуць па гэтых коштах выкупляць, то ў любым выпадку арэндная плата будзе адзін рубель. Будуць плаціць за кватэру, як звычайна. Яны нічога не губляюць. Могуць жыць спакойна далей. Але калі яны жадаюць перадаць кватэру дзецям, то няхай спачатку яе купяць. Па 500 долараў — гэта рэальная цана. Калі працуеш, то плаці па 700 долараў. І нікога высяляць на вуліцу не будуць. Вось, напрыклад, да мяне прыходзілі сацыяльныя работнікі, якія даглядаюць інвалідаў, і запыталі, ці могуць яны выкупіць зараз кватэру пры жыцці інваліда. Чаму не? Калі яму можна па 500 долараў за метр кватэру набыць, то няхай выкупляе. А там афармляйце, як хочаце".*



Падчас развітання з жанчынамі паспачувала ім, сказала, што разумею, як гэта цяжка — хадзіць па розных інстанцыях сляпому. А ў адказ: *"Ай, вы не думайце, што гэта самае цяжкае. Вось у Людмілы муж інвалід I групы. Працуе дома. А ён жа так бульбу пачысціць, што не падкапаешся. А як ён селядзец пад шубай робіць! Ніводнай косткі не знойдзеце. Ды што там, нам бы толькі вырашыць гэтую праблему, а ўжо выжываць мы навучыліся. Вось баімся толькі, што гэтую праблему ўсё ж не пераадолеем".*

**Любоў ЛУНЁВА.**

РЭГІЁН

## *Гомельскія дэмакратычныя сілы выстаўляюць кандыдатам у Палату прадстаўнікоў жанчыну*

*Галіна Краўчанка плануе балатавацца па Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе №36.*

Там мусяць прайсці давыбары з той прычыны, што падчас парламенцкай кампаніі 2012 года не быў абраны дэпутат. Гэта адзіная ў нашай краіне акруга, якая не мае свайго дэпутата ў Палацы прадстаўнікоў.

Кандыдатуру Галіны Краўчанка падтрымліваюць рух "За Свабоду", Партыя БНФ, кампанія "Гавары праўду!" ды іншыя дэмакратычныя арганізацыі. Давыбары адбудуцца 23 сакавіка 2014 года, разам з мясцовымі выбарамі.

КАДРЫ

# Кульбиты Иванова

*Как известно, заместитель главы Администрации президента Валерий Иванов назначен председателем правления Белорусского республиканского союза потребительских обществ.*

Судьба этого чиновника посвоему показательна. О нем заговорили после того, как Иванов отважился возглавить прославленный совхоз "Рассвет" после ареста многолетнего руководителя хозяйства Василия Старовойтова. "Кадр, который так начинает карьеру, далеко пойдет", — говорили в то время многие. Так оно и получилось. Очень скоро Иванов уже возглавлял Шкловский райисполком. В 2008 году был выдвинут кандидатом в депутаты по Шкловскому избирательному округу — тому самому, который стал трамплином для будущей президентской карьеры Александра Лукашенко, а после достался по наследству давнему приятелю президента — Владимиру Коноплеву до его отставки с поста председателя Палаты представителей.

Не удивительно, что в Палате представителей Валерий Иванов не затерялся и сразу был избран вице-спикером. Затем этот ценный кадр был перекинут в правительство на должность вице-премьера, курирующего АПК. Однако и там потрудился недолго, перебравшись в кресло главы Белорусской калийной компании.

Эксперты поговаривают, что именно благодаря "профессиональным" управленческим качествам Валерия Иванова БКК очутилась в нынешнем незавидном положении. Однако чиновник и здесь вышел сухим из воды, получив в июле 2013 года пост заместителя главы Администрации президента. А теперь и новое назначение подоспело.

Напомним, в июле 2013 года Комитет государственной безопасности заявил о возбуждении сразу пяти уголовных дел в отношении снятого с должности председателя Белкоопсоюза Сергея Сидько, начальника управления капитального строительства общества Дмитрия Колодезного, его заместителя, а также нескольких бизнесменов. Руководителям Белкоопсоюза вменялось получение взяток, которые достигали 500 тыс. долларов, злоупотребление властью или служебными полномочиями, хищения. Эти преступления были выявлены "в ходе проведения мероприятий по наведению порядка в строительной отрасли".



Руководители Белкоопсоюза и бизнесмены, с которыми они были связаны, занимались вымогательством взяток за предоставление объемов работ на объектах потребкооперации и за продажу инвесторам земельных участков и объектов недвижимости. Чуть позже, в августе, КГБ сообщил, что Дмитрий Колодезный также, злоупотребляя служебными полномочиями, лоббировал интересы коммерческих структур при строительстве магазина в Лиде, чем нанес обществу ущерб в размере около 700 млн рублей.

АКЦЫЯ

## *За адстаўку Міхаіла Мясніковіча і роспуск Палаты прадстаўнікоў*

Такую акцыю распачала магілёўская абласная арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Ідзе збор подпісаў.

Нагод для гэтага хапае. Беларускія ўлады надумалі з 1 студзеня 2014 года спаганяць з аўтаўладальнікаў так званую пошліну на выдачу допуску на ўдзел у дарожным руху. На думку многіх, такім чынам улады спрабуюць кампенсаваць за кошт народа свае правалы ў эканоміцы.

— Улада пераступіла вельмі небяспечную рысу, калі рашэнне праблем за кошт насельніцтва становіцца ўжо проста немагчымым, — лічыць старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі АГП **Уладзімір Шанцаў**. — У нашай сітуацыі ўводзіць новыя падаткі нельга. Але ўлада гэтага не адчувае, яна адарвалася ад насельніцтва. Транспартны падатак — гэта ўжо перабор.

Калі ў дзяржавы няма грошай, мы можам падказаць, дзе іх знайсці. Хай улады скарачаюць незлічоную колькасць сваіх ідэолагаў, спыняць фінансаванне з бюджэту "Белай Русі " і БРСМ, вернуць у бюджэт грошы, выдаткаваныя на будаўніцтва новай пампезнай рэзідэнцыі.

ЭКАНОМІКА

## *Рыхтуюцца да продажу...*

Спіртагарэлачныя заводы "Белалка" і "Этанол" ужо ператвораны ў адкрытыя акцыянерныя таварыствы. На чарзе "Мінск-Крышталь" і Клімавіцкі ЛГЗ.

Пра гэта паведаміла прэс-служба канцэрна "Белдзяржхарчпрам".

Паводле інфармацыі канцэрна, Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод "Белалка" назву захавае, а вось рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Камбінат па вытворчасці медыцынскай і спіртазмяшчальнай прадукцыі "Этанол" пераўтвораны ў ААТ "Мазырскі спіртагарэлачны завод".

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Тянут резину...

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Есть новогодние подарки и для юридических лиц. Для обеспечения положительного торгового сальдо устанавливается предельная доля импортной составляющей в стоимости произведенной продукции (60%). С уплатой налога на объем ее превышения и оценкой работы руководителей предприятий по показателю импортоемкости продукции. Планируется административно сдержать наплыв импортных товаров на потребительский рынок, рост которых не должен превышать 4,5%. Нет предела административным изысканиям тружеников Минэкономики. Скоро будем выстраиваться за импортом в очереди, как в добрые советские времена.

Структура доходной части бюджета, естественно, не претерпела существенных изменений и остается традиционной. Наибольшие доходы намечено собрать с помощью налога на добавленную стоимость (который уже давно не исчисляется от этой стоимости). Его доля в консолидированном бюджете — 32,4%. Как известно, этот налог относится к косвенным, он — органическая часть цены, и реально его платит покупатель товара. Следовательно, и население. Доля налогов от внешнеэкономической деятельности составит 12,7%. Большую их часть составляют ввозные и вывозные пошлины от экспортно-импортной деятельности. Здесь основной расчет правительства, как всегда, на экспорт нефтепродуктов и калийных удобрений. С нефтепродуктами пока более или менее. Москва, как и в текущем году, согласилась поставить нам в первом квартале 5,75 миллиона тонн беспошлинной нефти. Но вывозные пошлины от нефтепродуктов и в следующем году мы по-прежнему будем перечислять в российский бюджет. Поэтому вся надежда на вывозные пошлины от калийных удобрений, которые вновь будет платить "Беларуськалий". Цена на калий-хлор в бюджете заложена вполне реальная — 305 долларов за 1 тонну, а вот добыча 6,6 миллиона тонн — под вопросом. В 2012 году Беларусь в составе картеля "Беларуськалия" и "Уралкалия" экспортировала 3,6 миллиона тонн калийных удобрений. За 9 месяцев 2013 года экспортировано только 2,7 миллиона тонн. И не факт, что картель восстановится, то есть конкурировать не столько за добычу, сколько за возможность реализации удобрений Беларуси придется в более сложных условиях.

Никогда власти не выполняли и планы по привлечению иностранных инвестиций и средств от приватизации. Как показывает белорусская практика, всегда получается недобор средств в бюджет по налогу на доходы и прибыль, так как эффективность предприятий снижается, а число убыточных возрастает. И ничто не предвещает, что этот тренд изменится в следующем году. Вывод напрашивается такой: начиная с 2011 года, официальные годовые прогнозы социально-экономического развития страны, которые готовит правительство, и прогнозы Нацбанка в виде Основных направлений денежно-кредитной политики государства, не сбываются. И если в следующем году бюджет будет недобирать против плана доходы по какой-либо статье, то возможный и пока надежный источник компенсаций недополученных поступлений — доходы населения. Например, ставки акцизов можно повысить в любое время, как и ввести еще новые подати. Почему Минфину и нижней палате Национального собрания не обсудить возможность введения налога на роскошь, который в той или иной форме действует в развитых странах? Такие предложения обсуждались в кулуарах российской Госдумы, но, как и ожидалось, не прошли. Как вы думаете, читатель, почему?

В целом неизменна и структура расходной части бюджета на 2014 год. В республиканском бюджете, как и ранее, львиная доля финансирования приходится на чиновничью статью типа общегосударственных расходов и на содержание силовых ведомств, о чем нужно писать специальную статью. Несколько возросшие доли расходов на образование (на 0,5%) и здравоохранение (0,7%) — слабый аргумент для объявления якобы социальной направленности белорусского бюджета.

Помимо всего этого часть расходов республиканского бюджета будет финансироваться из Фонда социальной защиты населения.

Новогодние усилия Нацбанка направлены на ограничение валютного потребления в стране и кредитования в целом. И в этом главному регулятору также не откажешь в изобретательности. Не получат валютных кредитов предприятия, не имеющие валютной выручки. Предполагается запрет на выдачу валютных кредитов для расчетов с резидентами. Банкам рекомендовано не предоставлять кредиты для приобретения импортного оборудования и техники через посредников. Надо обращаться непосредственно к производителю (интересно, как будет закупать "Белавиа" три "Боинга", для чего на первоначальный взнос выделено из бюджета 56 миллионов долларов?). Рекомендовано не предоставлять кредиты также тем заемщикам, которые имеют сверхнормативные запасы готовой продукции. Ограничиваются и возможности выдавать кредиты населению. Если кредитная ставка банка более чем в 2 раза превысит ставку рефинансирования регулятора, то он должен из своих доходов резервировать на случай невозврата долга не 1% от суммы кредита, как на остальные выдаваемые кредиты, а все 100%. Это решение подрывает финансовое состояние банка, уменьшает за счет таких резервов его прибыль.

Понятно, что такие действия главного банка направлены на ограничение кредитно-денежной эмиссии, на уменьшение давления на валютный рынок. Но их характер, неестественность и натянутость в дерганых попытках закрыть ту или иную появившуюся брешь очень напоминают суетливые ходы Нацбанка весной кризисного 2011 года.

Оценивая эти "новогодние поздравления" экономических властей, сделанные в рамках привычного ручного управления экономикой, создается впечатление, что власти просто тянут резину в надежде получить очередное внешнее кредитное вливание.

ОФИЦИАЛЬНО

## *Ниже нельзя*

В Беларуси минимальная заработная плата с 1 января 2014 года составит 1 миллион 660 тысяч рублей.

Такое решение содержится в постановлении Совета министров №1076.

Как сообщает пресс-служба правительства, одновременно установлена часовая минимальная заработная плата — 9890 рублей.

Согласно закону Беларуси "Об установлении и порядке повышения размера минимальной заработной платы", размер МЗП, установленный и проиндексированный в соответствии с законодательством, является обязательным для нанимателя в качестве низшей границы оплаты труда работников.

Как пояснили в Министерстве труда и социальной защиты, МЗП применяется как государственный минимальный социальный стандарт в области оплаты труда в организациях всех организационно-правовых форм, в том числе в общественных объединениях, товариществах собственников, гаражных кооперативах, садоводческих товариществах и иных потребительских кооперативах.

КРОПКІ НАД «І»

# Спяшайцеся...

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №563 "Аб некаторых пытаннях прававога рэгулявання жыллёвых адносін". Згодна з указам, жылыя памяшканні дзяржаўнага жыллёвага фонду, не прыватызаваныя грамадзянамі, будуць пераведзены ў камерцыйнае жыллё пасля 1 ліпеня 2016 года. Да гэтай даты грамадзяне змогуць скарыстацца правам на прыватызацыю. Пасля названай даты прыватызацыя будзе спынена.

Указам таксама ўстаноўлены пералік катэгорый грамадзян, якія маюць першачарговае права на прадастаўленне ім камерцыйнага жылля камунальнага жыллёвага фонду на перыяд працоўных (службовых) адносін. Да іх адносяцца:

— дзяржаўныя служачыя, якія займаюць пасады, што даюць права на атрыманне жылых памяшканняў, згодна з пералікам, вызначаным прэзідэнтам Беларусі (указ ад 19 мая 1999 года №286);

— суддзі і пракурорскія работнікі;

— маладыя спецыялісты;

— работнікі арганізацый, размешчаных на тэрыторыях з узроўнем радыеактыўнага забруджвання звыш 5 Кі/кв.км і прыраўнаваных да іх тэрыторыях;

— ваеннаслужачыя;

— работнікі ў выпадку іх пераезду ў іншы населены пункт пры прызначэнні на пасаду і іншыя.

Дакументам упарадкаваны падставы і ўмовы пастаноўкі на ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Так, пастаноўка маладых сем'яў на ўлік маючых патрэбу будзе ажыццяўляцца незалежна ад забяспечанасці плошчай жылога памяшкання пры ўмове адсутнасці ў іх уласнага жылля або жылля, прадастаўленага па дагаворы найму жылога памяшкання дзяржаўнага жыллёвага фонду. Пры гэтым права на атрыманне льготнага крэдыту або субсідыі на будаўніцтва і набыццё жылля яны не маюць, аднак могуць прэтэндаваць на ўдзел у будаўніцтве камерцыйнага жылля, якое ўзводзіцца камунальнымі будаўнічымі арганізацыямі з абмежаванай рэнтабельнасцю (5 працэнтаў).

ЧЫТАЧ—ГАЗЕТА

# У Новы год — з «Народнай Воляй»!

Атрымаўшы свае пенсіённыя мільёны, спачатку ўзрадавалася, нават хацела запець тую яшчэ савецкую песеньку: "Живем мы весело сегодня, а завтра будет веселей!". Але, на радасцях зайшоўшы адразу ў краму (цяпер іх завуць музеямі), аптымізм страціла: нават акцыі-зніжкі не цешылі. Ды што зробіш — есці ж хочацца.

Гандлю пакінула аж паўтары сотні! Наступны аб'ект — аптэка. Тут ужо ўдвая больш патраціла. Арганізм савецкага заслужанага ветэрана ўжо даўно дае збоі. А "бясплатная" медыцына патрабуе платных аперацый, пратэзіравання, амбулаторнага лячэння — сумы зашкальваюць. І ні месячнай, ні двух—трохмесячнай звычайнай (а не дэпутацкай) пенсіі, як ні эканом, не хопіць. Выбіраем найтаннейшае з патрэбнага і, вядома, не лепшай якасці. Пра квартплату не варта і гаварыць, бо "с каждым днем все радостнее жить" (савецкая песня). А цэнам на праезд у грамадскім транспарце ўжо і не дзівімся, прызвычаіліся. Той яшчэ праезд! А калі з перасадкай?! Між іншым, у Расіі і Украіне для пенсіянераў праезд бясплатны, а дзеці вайны атрымліваюць яшчэ і даплату да пенсіі. Затое ў Беларусі "стабільнасць і парадак", "квітнеем", як уключым БТ. Яно адразу здымае ўсе праблемы... "Не сыпь мне соль на раны..." Амаль у кожным сюжэце — пра гэты самы клопат Бацькі аб дабрабыце (цікава, гасцей з усіх кантынентаў ці свайго народа?). Мерапрыемствы на любы густ: хакейныя турніры на прызы Самага-Самага Найгалоўнейшага, конкурсы прыгажосці, славянскія базары, дажынкі і г.д. і т.п. Палацы, палацы, палацы...

Высвова са сказанага: каб не павышаць крывяны ціск (дарага каштуюць у аптэцы лекі) — не ўключайце БТ, а ідзіце на пошту ды падпішыцеся на прыстойную, сумленную, інтэлігентную "Народную Волю", якая за два дзесяцігоддзі стала крыніцай ведаў па эканоміцы, палітыцы, сацыяльнай сферы, гісторыі, культуры і г.д. Ну дзе яшчэ можна прачытаць высокапрафесіянальныя артыкулы доктара эканамічных навук Барыса Жалібы, заўсёды чаканыя надзённыя матэрыялы Святланы Калінкінай, Любові Лунёвай, Марыі Эйсмант, вершы Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Някляева — непаўторных, геніяльных паэтаў. А як без чароўнай таленавітай сатыры Алеся Няўвеся?! І ўсё гэта і шмат іншага — у "Народнай Волі"! З ёй мы адчуваем сябе людзьмі, беларусамі!

Веру, што і ветэраны, якія на заслужаным адпачынку, і моладзь, усе мы падтрымаем праз падпіску сваю любімую "Народную Волю". І, каб нармалізаваць ціск, не забудзьцеся на "Нашу Ніву" і "Наша слова", выкраім са сваіх мільёнаў сродкі, каб жыла (выжыла) сапраўды беларуская прэса, беларуская культура.

Жыве Беларусь!

**З удзячнасцю і павагай —**

**Ліна МАСАЛКОВА, ветэран-мільянер.**

*Мінск.*

ТЭЛЕГРАМА




# *Вектар, які дапамагае нам не звярнуць з дарогі*

Напярэдадні 2014 года перадаю шчырыя віншаванні галоўнаму рэдактару "Народнай Волі" Іосіфу Паўлавічу Сярэдзічу і калектыву, які 18 гадоў аддае сваё майстэрства, маральныя і фізічныя сілы, каб "Народная Воля" заставалася бескампраміснай і баявой у ідэйным паядынку за праўду, за свабоду, за мову і нацыянальную годнасць. Кожны нумар газеты — свята для нас. Прачытваецца кожная публікацыя, кожная інфармацыя абмяркоўваецца, распаўсюджваецца. Лічу сваім гонарам заставацца падпісчыкам "Народнай Волі". Жадаю, каб і ў новым годзе чытачы бралі ў рукі вашу працу з павагай да кожнага слова, якое адрасавана кожнаму з нас. Паважаныя народавольцы! Дзякую вам, таленавітым і нястомным, няхай застаецца з вамі творчы пад'ём, прафесійная мудрасць і мужнасць. "Народная Воля" — гэта вектар, які дапамагае нам не звярнуць з дарогі, імя якой Праўда. Жыве Беларусь! Жыве "Народная Воля"!

**Роза РЫМАР.**

*Гродна.*

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПРЫЁМНАЙ

# «Хочацца плакаць...»

Некалькі дзён таму ў рэдакцыю завітаў Генадзь Пясецкі. На вачах яго былі слёзы. Ды і як тут не заплакаць — ён, работнік УП "Ямполь-Слуцк", за 159 гадзін працы ў лістападзе атрымаў... 47.668 рублёў (разам з вучнёўскімі грашыма — 520 тысяч).

— Я — інвалід дзяцінства, у мяне другая група захворвання, — распавёў Генадзь Леанідавіч. — Пенсія малая, таму ў верасні і пайшоў працаваць на "Ямполь-Слуцк". Пакуль на прадпрыемстве знаходжуся ў якасці вучня, і, шчыра прызнаюся, — не вельмі ў мяне атрымліваецца рабіць шчоткі. Але ж і здзекавацца з людзей не трэба. Калі я атрымаў разліковы лісток за лістапад, то не паверыў сваім вачам. Без вучнёўскіх грошай у мяне значылася сума — 47.668 рублёў. За 20 дзён, 159 гадзін работы. Гэта проста смех!



Па словах суразмоўцы, ён фізічна не можа выконваць норму, але працуе з 8.00 да 16.00. У мінулым месяцы атрымаў каля мільёна рублёў.

*"Па норме трэба 20 шчотак зрабіць, а я раблю, можа, пяць,* — дадае ён. — *Колькі дазваляе стан здароўя. Але, паўтаруся, заробкі настолькі смешныя, што хочацца проста плакаць..."*

На жаль, пагутарыць з дырэктарам прадпрыемства не ўдалося — ён з'ехаў у камандзіроўку. Але ў бухгалтэрыі выказалі свой пункт гледжання на сітуацыю.

— Разумееце, у нас работнікі — інваліды, — распавялі мне. — Многія не ўмеюць працаваць, а некаторыя і не хочуць. Вось, напрыклад, майстар кажа, што той жа Генадзь Пясецкі лянуецца. Яго ж яшчэ вучаць, ён атрымлівае вучнёўскія.

**— Але ж ён выходзіць на поўную змену, у разліковым лістку пазначана, што чалавек адпрацаваў за месяц 159 гадзін...**

— Ставяць гадзіны, а што рабіць? Ён жа знаходзіцца ўвесь дзень на рабоце, але не працуе. Няхай бы тады дома сядзеў, мае ж пенсію па інваліднасці.

**— Без вучнёўскіх грошай Генадзь Пясецкі атрымаў за месяц 47.668 рублёў. Пагадзіцеся, неверагодна малая сума?**

— Калі ён робіць, напрыклад, адну шчотку ў дзень, то за што плаціць? Дарэчы, у нас заробкі ва ўсіх невялікія — каля 1 мільёна 400 тысяч. Калі хто норму не выконвае, атрымлівае менш. Гэта ж інваліды, прадпрыемства спецыфічнае. Не атрымліваецца працаваць — не трэба сябе няволіць.

***

У кожнага, як бачым, свая рацыя. Але ж у любым выпадку шкада чалавека, якога лёс і без таго пакараў. Хацелася б, каб да такіх людзей, як інваліды, дзяржава і кіраўніцтва тых прадпрыемстваў, дзе яны працуюць, ставіліся больш уважліва.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЕМА ДНЯ





# Цветы для «Беркута»*

***Владимир БАСОВ***

*Они стояли, как титаны,*
*И опирались на щиты,*
*А те, кто вышел на майданы,*
*Вставляли в те щиты цветы.*

*Играли песни музыканты,*
*И пели вместе они гимн,*
*Давай, не слушайся ты "Банды",*
*Не верь "титушкам"* и другим.*

*Они стояли, взор понурив,*
*Как будто стыдно стало им.*
*И только сзади, глаз прищурив,*
*Их командир ворчал: "Стоим!"*

*Они хотели быть с народом,*
*Ведь присягали-то ему...*
*Но стали ныне с разным сбродом,*
*Дорога коему в тюрьму.*

*Но верят люди в вашу совесть,*
*У вас есть мать и есть отец.*
*И, может быть, найдется доблесть*
*Покончить с этим наконец.*

***Примечание:***

** "Беркут" — милицейское антитеррористическое подразделение.*

** Титушки" — некие спортсмены, устраивающие провокации в толпе.*

ШЧЫРА

# *Дзякуй і Юрыю Жыгамонту*

Шаноўная рэдакцыя "Народнай Волі"!

Ад усяго сэрца віншуем Вас з Новым 2014 годам!

Жадаем Вам моцнага здароўя, творчых поспехаў, няхай у Вашым жыцці будуць толькі шчаслівыя моманты!

Калі ласка, праз Вашу газету перадайце вялікі дзякуй вядучаму праграмы "Прыгоды дылетанта" Юрыю Жыгамонту. Дай Бог яму здароўя і ўсяго найлепшага! Мы вельмі ўдзячны за яго праграму.

**Сям'я Н.І.КУДАНОВІЧ.**

*Мінск.*

ПЕРЕПИСКА

# С нашего молчаливого согласия...

Добрый день, уважаемая редакция!

Я, Наталия Глазунова, морально поддерживаю человека, находящегося в тюрьме. Я его никогда не видела. Узнала о нем от бывшего несправедливо осужденного Э.В.Китова. Этого человека зовут Виктор Михайлович Завадский. Находится он в ИУИК №10, отр. №3. Статья 209. Виновным себя он не считает.

Хочу процитировать несколько его писем. Возможно, для многих это будет повод задуматься.

***

*"Я снизил бытие свое до быта,*
*Тюремный быт в земной моей судьбе*
*И прошлое настолько мной забыто,*
*Что крылья раздражают при ходьбе.*
*Империи летят, хрустят короны,*
*Страна вершит свой самосуд,*
*А нам сегодня дали макароны,*
*А завтра, может, пере(дачку) принесут.*
*Попавшись в подлую ловушку,*
*Сменив невольно место жительства,*
*Кормясь, как волк, через кормушку,*
*И охраняем, как правительство,*
*Я — заключенный, пария, плебей,*
*Изгой затравлен и опаслив,*
*И не пойму я, хоть убей,*
*Какого черта я так счастлив.*

Как показывают десятилетние наблюдения специалистов, психологов Гарварда, БГУ, МГУ, МГБ, КГБ, ГУЛАГа, нынешнего ДИНа, почтовая связь родственников, друзей и близких с заключенным, осужденным на немалые сроки, прекращается через 3—9 месяцев после судебного вердикта. Через определенное время у заключенного уверенно складывается мнение, что, кроме родителей, ты никому не нужен. И это не теория, к великому сожалению.

Отсутствие устойчивых средств коммуникации делает почтовую связь единственной формой общения со свободным миром. В каждом письме зэк обращается с просьбами, задает волнующие вопросы, а затем с надеждой, ожидает. Ожидания длятся долго и сводятся к тому, чтобы знать: ушло письмо или нет? Дошло до адресата или в щель какую-то провалилось?

У В.С.Высоцкого есть замечательная песня на эту тему:

*Ребята, напишите мне письмо,*
*Как там дела, в свободном вашем мире?*
*Что вы там пьете? Ведь мы почти не пьем.*
*Здесь только снег при солнечной погоде.*
*Ребята, напишите мне письмо,*
*А то здесь ничего не происходит.*
*Страшнее может быть лишь Страшный Суд.*
*Письмо мне будет Путь с Живою Нитью.*
*Письмо, быть может, мне не отдадут,*
*Но, всё равно, ребята, напишите...*

**P.S.** Я не считаю себя преступником. Я ни на йоту не признаю те обвинения, под которыми подписался судья в приговоре. И все же я подчиняюсь правилам, которые мне навязывают".

***

Вот выдержка из письма от 03.12.2013 года.

"Сегодня пригласили в спецотдел. Терялся в догадках. Все оказалось до банального просто: "в суде Партизанского района 10.12.2013 г. в 14.15 мин. будет рассматриваться гражданское дело о моральной и материальной компенсации от 36 граждан (иск). Так как Завадский В.М. не может присутствовать в суде, его интересы может представлять представитель".

Это есть все, почти добуквенно, о чем меня информировали. Я не знаю этих граждан (фамилии с именами прилагались), не видел их заявлений, не знаю, какие претензии они предъявляют и в каком размере. У меня самого куча вопросов. Но это лицо нашего правосудия.

Если есть претензии ко мне, ознакомьте с ними. Я бы хотел задать вопросы и получить на них ответы. В конце концов, мое конституционное право присутствовать при упоминании моего имени и, несомненно, если кто-либо предъявляет какие-то исковые требования. Но мне сообщают, что я не могу присутствовать. Однако я имею огромное желание посмотреть на людей и на их заявления.

Такие вот права у осужденных, в частности, у меня.

...Они там свадьбу решили сыграть, и ты можешь попасть в женихи. А вот присутствовать тебе не надо, вдруг откажешься жениться? Да и волноваться тебе не надо: встреча, застолье, подстолье, брачные ночи — есть кому участвовать. Тебя через недельку события курсанем.

Весело, правда? Да, горько! горько! горько!"

***

Я бы, конечно, могла быть представителем, но ведь необходимо заявление от осужденного. Вам написала, потому что считаю: именно с молчаливого согласия каждого из нас и стал возможен такой размах законного беззакония под названием "правосудие".

**Наталия ГЛАЗУНОВА.**

*Минск.*

## ОТ РЕДАКЦИИ

**Не утверждая и не отрицая, насколько прав или не прав В.Завадский, выдержки из чьих писем цитирует Н.Глазунова, газета обращает внимание на такой факт — действительно, почему самого ответчика нельзя ознакомить с исками 36 граждан? Что ж это за правосудие, которое не дает возможности человеку самому защищать себя?**

ПАРАЛЛЕЛИ

# ...А пока должны считаться с мнением друг друга

Думаю, не ошибусь, если скажу: большинство людей придерживается укоренившихся советских стереотипов и дает положительную оценку всему тому, что связано с партизанской борьбой в годы войны. Но есть и такие, кто придерживается противоположного мнения.

Кто из них прав?

Наверное, правы и те, и другие.

Различие во мнениях основывается на том, что одни из них сталкивались, как говорится, с белым, а другие — с черным.

Как бы мы ни скрывали, но все же партизаны были разные. Одни вливались в отряды народных мстителей чтобы, рискуя жизнью, бороться с фашистскими оккупантами, а кое-кто преследовал свои корыстные интересы.

Широко бытует мнение, что сельчане безотказно делились с партизанами последним. Не спорю. Но случалось и такое, когда у людей насильно забирали то, что им самим было крайне нужно.

Понятно, партизаны не могли питаться и воздухом. Им нужны были пища, теплая одежда, обувь и многое другое. И для обеспечения всем этим в партизанских отрядах создавались соответствующие группы, бригады. Многое зависело от того, кто попадал в их состав. Как они действовали? Могли, например, реквизировать скотину в более обеспеченных и малочисленных семьях. А могли забирать всё у всех без разбору.

Примеры, которые приведу, наверно не всем понравятся. Но было то, что было (в других местах, может, иначе, а у нас именно так).

В годы оккупации я жил в маленькой деревеньке Васильевка, находившейся в семи километрах от железнодорожной станции Лотва — между Шкловом и Могилевом. Случалось, что охранявшие ее немцы забирали у кого-то из наших сельчан кабана. Но делали они это не с наскока, а по подсказке старосты деревни, который знал материальное положение каждой семьи. При этом они выдавали хозяевам соответствующие расписки для последующей оплаты немецкой администрацией реквизированного кабана. Другое дело, что люди не хотели связываться с гитлеровцами и часто не обращали внимания на их расписки.

Но вот пример несколько другого порядка.

В прошлом году я лечился в Республиканском клиническом госпитале имени П.М.Машерова вместе с бывшим партизаном Алексеем Андреевичем Старовойтовым. Естественно, как-то в наш разговор, происходивший в присутствии нескольких человек, вклинилась и военно-партизанская тема.

Алексей Андреевич рассказал, что в 1942 году в его бывшей родной деревне Малое Запоточье Городищенского сельсовета Могилевского района, от которой уже давно не осталось и следа, партизаны вымели практически все.

— Но ведь десятки лет мы слышали, что наше население грабили только оккупанты, а вы — про партизан? — переспросил я Алексея Андреевича.

— Какие оккупанты?! — ответил собеседник. — После набегов партизан им уже ничего не доставалось...

И добавил:

— Не только скотину, партизаны забирали у нас полушубки, валенки и другие понравившиеся им вещи... Более того, были случаи, когда то, что забирали у нас, затем спускали за самогон в соседних деревнях...

Как явствовало из рассказа А.А.Старовойтова, положение его односельчан усложнялось тем, что немцы нагнали в деревню много переселенцев из прифронтовой зоны — свои и приезжие умирали от голода и тифа...

После того как в деревне Алексея Андреевича совсем не стало житья, он подался в лес, к тем же партизанам...

После освобождения Беларуси А.А.Старовойтов был призван в действующую Красную Армию. Демобилизовался в 1947 году. И после не слишком калорийного армейского рациона Алексей Андреевич окунулся в колхозную бесхлебицу.

Прошедшие три года после изгнания оккупантов не слишком изменили в лучшую сторону горестное положение сельчан на опустошенной войной земле.

В семье не было кормилицы-коровы. И вблизи не было где купить. В поисках ее оказался аж на Гродненщине, в Берестовицком районе. Купленную там буренку пришлось вести в свою деревню за сотни километров. Шли несколько дней и в жару, и в дождь, останавливаясь для выпаса в местах, где была бесхозная трава.

Тяжело было слушать горькую исповедь старого участника минувшей войны. И ему, наверное, было нелегко возвращаться мысленно в прожитое. Кстати, в этом году ему исполняется 90 лет. Доживает свой век в Минске в семье дочери.

...А как с оценкой партизанского движения в целом?

Я считаю, что прийти к общему мнению сегодня, пока живы и те, и другие, не представляется возможным. Каждый из них до хрипоты будет доказывать свое, хотя горлом-криком истину не установишь. Только спустя время, когда все утрясется-уляжется, когда станут доступными для историков все архивные материалы, можно будет поставить последнюю точку в этом спорном вопросе. А пока, набравшись терпения, мы должны считаться с мнением друг-друга, исходя из того, что любая из бытующих версий имеет право не существование.

**Михаил ЖУКОВ, пенсионер, 87-летний ветеран труда советского времени.**

*г.Барановичи.*

ПОГЛЯД

# *Якая непавага да субяседніка і тэлегледачоў!*

Нядаўна на передачу "Карціна свету" вядомы вядучы Юрый Казіятка запрасіў для бяседы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Францыі Паўла Латушку. Як прыгожа ён гаворыць па-беларуску! Вось каб так усе размаўлялі! Але што вы думалі? Юрый Казіятка з ім гаварыў на рускай мове. Якая непавага да субяседніка і тэлегледачоў!



Так было і з некаторымі іншымі журналістамі тэлеканала СТВ.

Калі яны не валодаюць роднай мовай, то якое права маюць працаваць на дзяржаўным тэлебачанні? А калі валодаюць ды не хочуць, то гэта ўжо адсутнасць культуры.

І яшчэ. Калі транслююць якое-небудзь афіцыйнае пасяджэнне, то аператары абавязкова паказваюць сваіх кіраўнікоў буйным планам. Гэта што, такое правіла ці звычайны падхалімаж?

**Леанід БУЛАШ.**

*Мінск.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
20 СНЕЖНЯ 2013 г.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# Каханне ў час дыктатуры

**_У калядны вечар, 24 снежня, "Белсат" прапануе прэм'еру дакументальнага фільма "Каханне па-беларуску" вядомага рэжысёрскага тандэма Андрэя Куцілы і Вячаслава Ракіцкага. Гэтая адначасова шчымлівая і натхняльная стужка — пра каханне праз турэмныя краты Зміцера Дашкевіча і Насты Палажанка. Дарэчы, цяпер яны чакаюць дзіця._**






Пасля пратэстаў у снежні 2010 года іх пасадзілі ў турмы. Наста пасля адсідкі ў следчым ізалятары КДБ атрымала 1 год умоўна, а Зміцера кінулі за краты на 2 гады. У турме Наста і Зміцер пабраліся шлюбам, і Наста змяніла прозвішча на Дашкевіч. Напрыканцы гэтага лета хлопец выйшаў нарэшце на волю.

Праз краты маладзёны напісалі адзін аднаму тысячы лістоў, якія распавядаюць, што адчуваюць беларусы, якія пакахалі ў час дыктатуры.

"Тое, што мы назіраем пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, сведчыць: не наша прыдумка надаваць прыгожым словам "каханне па-беларуску" драматычны сэнс. У турмы кінулі Андрэя Саннікава і Ірыну Халіп. Зміцер і Наста Дашкевічы, Марына Адамовіч і Мікалай Статкевіч пабраліся за кратамі. Напярэдадні арыштаў адбыліся вяселлі іншых дэмакратычных актывістаў. Сотні жанчын чакалі сваіх мужоў і каханых ля муроў турмаў на Акрэсціна, Валадарскага — па ўсёй краіне. Плакалі на судах, выпрошвалі магчымасць зрабіць перадачу ў засценкі, дзе голадам і холадам мораць бязвінных людзей. Увогуле цягам апошніх 20 гадоў каханне шмат якіх сумленных людзей у Беларусі гартуецца цяжкімі выпрабаваннямі: галадоўкамі, турмамі, шантажом, рознымі спосабамі ціску з боку сілавых структур", — разважае адзін са стваральнікаў фільма Андрэй Куціла.

"Такім чынам, "каханне па-беларуску" набывае два асноўныя сэнсы: з аднаго боку, гэта шчырасць, адданасць каханых адзін аднаму і (як бы пафасна ні гучала) беларускім нацыянальным каштоўнасцям, з іншага боку, гэта штодзённая рызыка быць гвалтоўным чынам разлучанымі, няўпэўненасць у будучыні", — кажа рэжысёр.

Перадусім, пара ў якасці герояў фільма была абрана з прычыны іхняга ўзросту, прызнаецца Куціла: "Насце на самым пачатку гэтай гісторыі было ўсяго 20 гадоў. Нам падаецца, яна ўвогуле стала сімвалам маладзёжнага супраціву і маральнай чысціні. Мы ж ведаем, што шмат хто з дарослых, гэтак бы мовіць, рэвалюцыянераў не вытрымаў выпрабаванняў, гвалту, катаванняў. А тут маладая дзяўчына і сама прайшла праз турму КДБ, і ўзваліла на свае плечы адказнасць за лёс каханага чалавека і за сваю будучыню з ім, за ягоную сям'ю, і нават замяніла яго як лідара "Маладога фронту". І мы расказваем у фільме, праз што прайшлі двое маладых беларускіх герояў цягам гэтых трох гадоў: здзекі ў турмах, этапы, смерць маці Зміцера, хваробы абодвух бацькаў, скрадзены спецслужбамі пашпарт Зміцера, каб пара не пабралася, адмовы ў перадачах у турму".

"Небанальна — гэта калі праўдзіва. І з гледзішча псіхалогіі герояў, і з гледзішча сацыяльнага і палітычнага кантэксту, без пафасу і лозунгаў. У фільме няма ніводнага выдуманага слова, ніякіх нашых пазакадравых тэкстаў ці каментарыяў, — распавядае пра фільм Вячаслаў Ракіцкі. — Мы расказваем гісторыю драматычнага кахання, якое ўсё ж перамагае зло, праз лісты герояў. У словах, якія гучаць, — праўда і эмоцыі тых імгненняў, у якія яны пісаліся. У інтанацыях жа — асэнсаванне таго, што адбылося, бо ў фільме героі вяртаюцца да лістоў, перачытваюць іх праз хай і невялікую, але ўсё ж часавую адлегласць. Важна нам было паказаць і тое, што герояў не пакінулі паплечнікі, сябры. Падтрыманне сумленных людзей дапамагло ім перамагчы муры і краты дыктатуры".



Калі адлічваць пачатак фільма з першых здымак, то праца доўжылася 20 месяцаў. Зразумела, з вялікімі перапынкамі. Бо тэма патрабавала працягласці назірання за гераіняй у чаканні вызвалення каханага. Нягледзячы на немагчымасць адкрыта здымаць у турмах і нават каля іх, тым не менш удалося зняць шмат.

Але з гэтага "шмат" рэжысёры мусілі жорстка вылучыць літаральна каля 5—7 сцэн, якія дакладна адлюстравалі б жыццё Насты цягам апошніх двух гадоў. Доўга думалі і пра форму фільма: як паказаць жыццё і пачуцці чалавека, калі фізічна ягоная прысутнасць да пэўнага моманту немагчымая? Таму ліставанне стала асноўным структурным элементам.

"Нам давялося перачытаць больш за тысячу лістоў, каб выбраць з іх неабходныя кавалкі! Ведаеце, паглыбляцца ў прыватнае жыццё людзей — рэч не надта лёгкая. Яшчэ больш складана кагосьці туды дапусціць. Таму мы вельмі, вельмі ўдзячныя Зміцеру і Насце за дапамогу і ўвогуле за згоду ўзяць удзел у здымках. І ў гэтым таксама іхняя мужнасць", — прызнаецца Андрэй Куціла.

Фільм "Каханне па-беларуску" можна паглядзець вечарам **24 снежня** на "Белсаце" як па тэлевізары з дапамогай "талеркі", так і дзякуючы анлайн-трансляцыі на Belsat.eu. Пасля прэм'еры стужка будзе выкладзена ў адмысловай фільматэцы на сайце канала.

**Іван СНЕЖЫК.**

РЭЙТЫНГ

## БДУ заняў другое месца ў рэйтынгу ВНУ краін экс-СССР

"Інтэрфакс" прадставіў рэйтынг універсітэтаў краін-удзельніц СНД, Грузіі, Латвіі, Літвы і Эстоніі.

Было прааналізавана 405 ВНУ з 15 краін. На першай пазіцыі знаходзіцца Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя М.В.Ламаносава, на другой — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, на трэцім месцы — Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны ўніверсітэт.

У пяцёрцы лепшых таксама Кіеўскі нацыянальны ўніверсітэт імя Тараса Шаўчэнкі (4) і Вільнюскі ўніверсітэт (5).

Пры фарміраванні рэйтынгу ВНУ ўлічваліся крытэрыі, якія адлюстроўваюць тры сферы дзейнасці вышэйшых навучальных устаноў: адукацыйная, навукова-даследчая і міжнародная. Сярод прадстаўленых 405 універсітэтаў быў 21 беларускі. Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт займае 24-е месца, Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт — 32-е месца.

SOS!

## Гэта беднасць

*У пяці працэнтаў беларусаў грошай не хапае нават на ежу.*

Набыццё дарагіх рэчаў можа дазволіць сабе ўсяго крыху больш за адзін працэнт насельніцтва. У гэтым самі людзі прызналіся спецыялістам Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук, адказваючы на пытанні анкеты. Усяго было апытана паўтары тысячы чалавек.

Нагадаем, што гэта афіцыйнае сацыялагічнае даследаванне.

ДЫПКУР'ЕР

## Беларусь адкрывае пасольства ў Манголіі

*Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Савета міністраў.*

Пасольства Рэспублікі Беларусь у Манголіі будзе адкрыта ўжо ў 2014 годзе. Міністэрству фінансаў даручана фінансаваць выдаткі на адкрыццё і ўтрыманне пасольства ў межах сродкаў, прадугледжаных Міністэрству замежных спраў у рэспубліканскім бюджэце на адкрыццё і ўтрыманне дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў Рэспублікі Беларусь за мяжой.

ПАМЯЦЬ

## І прыме іх Буйніцкае поле

*Абласная ўлада пагадзілася ўвекавечыць памяць генерала **Раманава**, палкоўніка **Куцепава** і пісьменніка **Сіманава.***

Ініцыятары ідэі, як заўсёды, ветэраны вайны і працы. Старшыня Магілёўскага аблвыканкама **Пётр Руднік** падтрымаў іх ініцыятыву, адзначыўшы, што Міхаіл Раманаў і Сямён Куцепаў унеслі неацэнны ўклад у абарону Магілёва ў чэрвені 1941 года. Канстанцін Сіманаў апісаў гераізм савецкіх воінаў у газеце "Весці". Многія з іх сталі прататыпамі яго рамана "Жывыя і мёртвыя ".

Па словах Рудніка, на помнік ужо ёсць эскіз і праектна-каштарысная дакументацыя. Засталося толькі знайсці сродкі на яго стварэнне — каля 2 мільёнаў долараў. Такая лічба, дарэчы, названа на сайце Магілёўскага гарвыканкама. Цікава, што ж гэта будзе за помнік, на які трэба 2 мільёны долараў?

РОЗГАЛАС

# «Не падабаецца падручнік па гісторыі? Напішы свой!»

*Колькі версій беларускага мінулага маюць права на існаванне? І ці патрэбны беларусам адзіны падручнік па гісторыі? На гэтую тэму "Народная Воля" паразмаўляла з вядомымі беларускімі гісторыкамі.*

### Манаполія на праўду

На пачатку 2013 года **Уладзімір Пуцін** паскардзіўся на якасць расійскай адукацыі і прапанаваў стварыць адзіны падручнік па гісторыі для сярэдняй школы. Варта адзначыць, што толькі для 10-га класа ў Расіі існуе больш за 60 варыянтаў падручнікаў, і кожны настаўнік мог самастойна выбіраць, па якіх падручніках выкладаць прадмет. Але адзіны падручнік з новай "удасканаленай" версіяй гісторыі праз год паступіць у школы.

*"У Беларусі новыя версіі падручнікаў пачалі выходзіць яшчэ на пачатку 1990-х*, — узгадаў кандыдат гістарычных навук **Ігар Кузняцоў**. — *Да 2000 года*



*ўсе падручнікі былі заменены на адзіны, выпушчаны пад грыфам Міністэрства адукацыі. Расія са спазненнем амаль на 20 гадоў пайшла па нашым шляху. Там дзяржава таксама ўявяла манаполію на праўду"*.

Ігар Мікалаевіч упэўнены, што стварыць адзіны падручнік, які задаволіў бы ўсіх, — па-за межамі чалавечых магчымасцяў.

*"З канцэпцыі новага расійскага падручніка знікаюць некаторыя надзвычай важныя факты,* — канстатуе гісторык. — *Амаль няма паняццяў "татара-мангольскага іга", "сталінізм". Гісторыя Вялікай Айчыннай вайны будзе набліжана да савецкай мадэлі выкладання. Змены ў школьных ведах — толькі пачатак, напэўна, следам возьмуцца і за сістэму вышэйшай адукацыі"*.

Ігар Мікалаевіч адзначыў, што да таго, як Пуцін прапанаваў скласці ўвесь гістарычны багаж пад адну вокладку, справы ў выкладанні фактаў у нашых усходніх суседзяў ішлі куды лепш, чым у нас. Тэмы калабарацыі, сталінскіх рэпрэсій у беларускіх падручніках праходзяць пункцірам, а ў Расіі да нядаўняга часу не існавала забароненых гістарычных тэм.

### Хто каго ператрактуе

Для Расіі ідэя стварэння адзінага падручніка — новаўвядзенне, у пэўнай ступені выклік і эксперымент. У Беларусі ж гэта праблема з моцнымі каранямі.

*"Нават у царскай Расіі, нягледзячы на пэўную ідэалагічную выверанасць таго часу, выкладчык меў права выбіраць з некалькіх падручнікаў той, што найлепш падыходзіць да яго методыкі выкладання,* — тлумачыць кандыдат гістарычных навук, дацэнт факультэта міжнародных адносін БДУ **Уладзімір Ляхоўскі**. — *Сёння трэба стварыць грамадскую раду, у якую ўваходзілі б вядомыя гісторыкі. Яны маглі б ацэньваць якасць таго ці іншага падручніка і рэкамендаваць яго для выкарыстання ў школах. Важна, каб менавіта такія ўплывовыя навукоўцы, а не чыноўнікі маглі выбіраць дапаможнікі. Для нашай краіны дастаткова было б і 5 розных варыянтаў, бо ў нас не такі высокі патэнцыял, каб зрабіць 10 паўнавартасных падручнікаў"*.



Кандыдат гістарычных навук, старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы" **Алег Трусаў** даўно калекцыяніруе падручнікі па гісторыі з розных краін свету. Ёсць у яго і падборка айчынных кніжак.

*"Нашы падручнікі гісторыі за апошнія 20 гадоў некалькі разоў перавыдаваліся, і, калі пакласці іх перад сабой, можна знайсці шмат адрозненняў,* — канстатуе спадар Трусаў. — *Лічу, што нам, як еўрапейскай дзяржаве, добра было б аб'явіць конкурс — каб гістарычныя працы пісалі не тыя, хто і ў школе не вучыўся, а паважаныя людзі — выкладчыкі ўніверсітэтаў, школьныя настаўнікі"*.



Напагатове ў Алега Анатольевіча і галоўны крытэрый для адбору лепшых падручнікаў — праўдзівасць. У кнізе павінны быць пералічаны ўсе важныя факты гісторыі, нават не самыя прыемныя.

*"Калі была бітва пад Оршай, то даваць адразу некалькі трактовак: як яе разглядаюць у Беларусі, Расіі, Польшчы, Літве,* — прапаноўвае спадар Трусаў. — *Дарэчы, у некаторых нашых падручніках сустракаецца такі падыход. Мы пакрысе ідзём у гэтым накірунку, але вельмі марудна"*.

Іншыя дзяржавы няблага спраўляюцца з такой задачай. Напрыклад, у Францыі Напалеона лічаць нацыянальным героем, але не адмаўляюць, што для той жа Расіі ён быў агрэсарам.

*"У маёй калекцыі ёсць літоўскі падручнік, дзе напісана, што Тадэвуш Банавентура Касцюшка з'яўляецца літоўцам беларускага паходжання,* — усміхаецца кіраўнік ТБМ. — *Нашы суседзі тлумачаць нашу гісторыю так, як зручна ім. Мы таксама можам па-свойму інтэрпрэтаваць іх гісторыю"*.

### З ВКЛ лепш, чым з рэпрэсіямі

Напярэдадні выхаду адзінага падручніка расійскія сродкі масавай інфармацыі сапернічаюць у тым, хто ўкажа больш хібаў у будучым падручніку. Некаторыя выданні нават запусцілі спецыяльныя рубрыкі, у якіх апісваюць спрэчныя моманты расійскай гісторыі.

Як ні дзіўна, але ў беларускіх падручніках не так шмат тэм, апісанне якіх мела сумніўную якасць. Галоўная прычына для спрэчак — XX стагоддзе.

*"Хутка будзе ўжо сотая гадавіна Першай сусветнай вайны,* — нагадаў гісторык **Уладзімір Ляхоўскі**. — *Сёння гэта абсалютна белая пляма ў нашай гістарыяграфіі, не кажучы ўжо пра школу. У нас адзін-два спецыялісты цікавяцца гэтай тэмай на сур'ёзным узроўні"*.

Навукоўцы як адзін пералічваюць цяжкія тэмы айчыннай гісторыі: усталяванне савецкай улады, рэпрэсіі, падзелы Беларусі і станаўленне незалежнасці.

*"Найбольш церпяць тыя пытанні, якія маюць пэўны ідэалагічны чыннік,* — выказаўся **Алесь Пашкевіч**. — *Па-першае, гэта святая карова для беларускіх улад — Другая сусветная вайна на тэрыторыі Беларусі. Тэма асвятляецца аднабока, і ўсё падпарадкавана палітычнаму моманту.*

*Ёсць праблемы з апісаннем сучаснага перыяду — ад абвяшчэння Незалежнасці да сённяшняга дня. Перакосы ў адзін бок тут відавочныя. Калі ідзе гаворка пра больш старыя часы, то яны апісаны дастаткова добра"*.

Спрэчкі і канфлікты часам такія глыбокія, што вырашыць іх у межах школьнай праграмы проста нерэальна!

*"Вялікая Айчынная вайна стане водападзелам паміж прыхільнікамі савецкага мінулага і тымі, хто крытычна ставіцца да ролі савецкай партызанкі і гэтак далей,* — прызнаўся спадар Ляхоўскі. — *Сёння немагчыма прыйсці да кансэнсусу нават сярод гісторыкаў. Не думаю, што такі канфлікт трэба выносіць у школу. Іншая справа — абмяркоўваць спрэчныя тэмы на факультатыўных занятках, заахвочваць вучняў саміх шукаць адказы на гэтыя няпростыя пытанні"*.

### Камерцыйны падыход

Прыхільнікі існавання адзінага падручніка па гісторыі ў Беларусі лічаць, што адна версія гістарычных падзей значна спросціць для абітурыентаў падрыхтоўку да ўступных экзаменаў у ВНУ. Акрамя таго, ёсць сумнеў, што кожная альтэрнатыва будзе якаснай.

"*У Польшчы няма адзінага падручніка,* — распавядае гісторык **Алесь Пашкевіч.** — *Кожны аўтар адсылае свой падручнік на рэцэнзію ў Міністэрства адукацыі, каб там пацвердзілі яго якасць. Пасля таго, як падручнік надрукавалі, яго пачынаюць рэкламаваць. Гэта даволі камерцыйная справа, але выбар усё роўна за педагогам"*.



Гісторыю запісваюць людзі, а значыць, цалкам адасобіцца ад аўтарскага "я" ў падручніку ніколі не атрымаецца. Чым больш такіх "я" сустрэнецца на шляху педагога, тым большая верагоднасць, што ён знойдзе для сябе аптымальную канцэпцыю выкладання.

*"Анатоль Тарас захацеў і напісаў сваю гісторыю,* — прыводзіць прыклад Алег Трусаў. — *Хочаш — вер яму, хочаш — не вер, але ён выдаў свой погляд на падзеі. Гэта таксама прыклад! Не падабаецца падручнік па гісторыі? Напішы свой!"*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# З-за каго маскі-шоу?

*Нядаўна мне па справах давялося быць у судзе Заводскага раёна Мінска. Не ведаю, каго там судзяць, але меры бяспекі былі надзвычайныя. І "касманаўтаў" — у шлемах і бронекамізэльках, з закрытымі тварамі — процьма. Можа, "Народная Воля" даведаецца, каго ж судзяць з такой перасцярогай?*

**Іван Цялькоў, Мінск.**

У судзе Заводскага раёна Мінска праходзіць закрыты судовы працэс над адным з самых вядомых беларускіх крымінальных аўтарытэтаў — **Дзмітрыем Галеевым,** які ў крымінальных колах больш вядомы як Галей, альбо Міця Галей.

Нарадзіўся ў вёсцы Станькава Дзяржынскага раёна. Злодзей у законе. Доўгі час жыў у Швецыі, а ў гэтым годзе быў выданы беларускаму боку. Цікава, што Галееў не прызнае сябе беларускім грамадзянінам і сцвярджае, што ён — асоба без грамадзянства.

Дзмітрый Галееў абвінавачваецца ў здзяйсненні ў 2003 годзе злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.208 Крымінальнага кодэкса (вымагальніцтва ў складзе арганізаванай злачыннай групы). Згодна са словамі следчых, Галееў і яго саўдзельнікі, пагражаючы жыхару Жодзіна, патрабавалі ў яго 18 тысяч долараў. Трое вымагальнікаў былі затрыманы, а Галей і Віталь Пухнарэвіч схаваліся за мяжой. Пухнарэвіч, дарэчы, да гэтага часу знаходзіцца ў міжнародным вышуку.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# «Кинули»

## Итальянцы "забыли" поставить оборудование на стеклозавод "Неман" стоимостью около 4 миллионов евро

Управление Следственного комитета Республики Беларусь по Гродненской области возбудило уголовное дело в отношении руководителя одной из компаний Итальянской Республики. Бизнесмен подозревается в совершении преступления, предусмотренного ч.4 ст.209 УК Республики Беларусь — мошенничество, совершенное в особо крупном размере.

*"Заключив контракт на поставку оборудования для производства стекловаты на ОАО "Стеклозавод "Неман" стоимостью около 21 миллиона евро, он выполнил обязательства частично. После чего представил для оплаты на предприятие и в банк фиктивные финансовые товарно-сопроводительные документы о якобы произведенной отгрузке оборудования. На основании принятых к исполнению документов банк произвел оплату недопоставленного оборудования, что повлекло причинение ущерба ОАО "Стеклозавод "Неман" в размере около 4 миллионов евро"*, — рассказал официальный представитель УСК РБ по Гродненской области **Сергей Шершеневич**.

В связи с указанными последствиями в отношении должностных лиц стеклозавода и банковского учреждения возбуждено уголовное дело по признакам преступления, предусмотренного ч.3 ст.424 УК Республики Беларусь, по факту злоупотребления служебными полномочиям, повлекшего тяжкие последствия.

*"В целях установления всех обстоятельств произошедшего следователями изъята бухгалтерская и иная документация ОАО "Стеклозавод "Неман". Назначена ревизия отдельных вопросов финансово-хозяйственной деятельности. Проводятся допросы должностных лиц предприятия, иные следственные действия. Параллельно расследуются обстоятельства перечисления валюты банковским учреждением"*, — рассказал представитель Следственного комитета.

